УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4Беи)-5
Ж85

**Жуковіч, В.**
**Ж85** Замова ад рабства : кніга паэзіі / Васіль Жуковіч. — Мінск : Каўчэг, 2017. — 104 с.
ISBN 978-985-7185-25-2.

У тэматычна багатай кнізе паэтам не ўтойваюцца найвастрэйшыя, самыя балючыя праблемы сучаснага жыцця. Яго найбольш хвалюе будучыня роднай краіны, лёс яе мовы, духоўнасці, незалежнасці. У выніку з чытачом працягваецца шчырая і пранікнёная гамонка, распачатая ў ранейшых зборніках. Многія старонкі прысвечаны мужным і мудрым сынам Бацькаўшчыны.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи=Рус)-5**

**ISBN 978-985-7185-25-2**

## ПЧОЛЫ БАРОНЯЦЬ ВУЛЛІ СВАЕ…

*Светлай памяці Алега Лойкі*

1. Захапленне

*“По кажном чтении*
*новаго нечто научишися...”*
З літаратурнае спадчыны
Францішка Скарыны

“Жыціе Еўфрасінні…” чытаў дапазна
Вечарамі Францішак тым летам –
Нечуванага новага многа спазнаў
З рукапіснае кнігі падлетак.

Ён убачыў памкненне духоўна расці
І жаданне сваю волю слухаць,
І няўхільнасць да вернае мэты ісці,
Справу ўласнага розуму рухаць…

Еўфрасінні жыццё ён спасцігнуў душой
І да простае чыстай высновы прыйшоў:
Варта справай жаданай грунтоўна заняцца --
Ты не станеш з пустою забаваю знацца.

Ды хлапчына задумаўся, гледзячы ў даль,
У жаданні праўдзівага цуду:
“Эх, ніводнае кнігі не маем, на жаль,
Зразумелае простаму люду!

А без кніжак прасветлых як свет зразумець?”
Апаноўвае клопат Францішка:
Слаўны Полацк павінен, павінен займець
Друкаваныя ясныя кніжкі!”

2. Прадчуванне

Так не спіцца на золку! “Ці то нейкі знак?
А ці горача гэтак у хаце?”
На рачны ціхі бераг выходзіць юнак,
Не збудзіўшы ні брата, ні бацькі, ні маці.

Сонца яснае над Палатой
Узышло, пазалочвае раніцу.
Хлопцу бачыцца лік Еўфрасінні святой,
Ад яе чуе, быццам ад маці сваёй:
-- Навука – твая абранніца.

І такі апантаны прыходзіць настрой,
Да навукі адчутая цяга радуе,
І ўжо вабіць хлапца еўрапейскі прастор:
Вільня, Кракаў, і Прага, і Падуя…

3. Адчуванне слова

“Не просил еси собе дней многих,
ни богатства…,
но жадал еси собе мудрости…”
“…Не толико жив ест человек хлебом
или лекарством, но боле всяким словом…”
З літаратурнае спадчыны
Францішка Скарыны

Не багацця прагнуў –
Мудрасці жадаў.
Будучым стагоддзям
Досвед перадаў.

І пра слова ролю
Афарызм сказаў,
З родным словам долю
Назаўжды звязаў.

4. Маналог закаханага Скарыны

Светлая Маргарыта!
Гожая Маргарыта!
Радасць мая Маргарыта!
Я не магу табе сказаць адкрыта,
Як пра цябе мне жаўранак спявае,
Да сонейка ўзлятаючы над жытам,
Як пра цябе пяе салоўка ў гаі.
О, Маргарыта!
Ты для мяне жаданая такая!
Ды я – кнігар, яшчэ  – вандроўнік вечны,
Нібыта сон здзяйсняю вешчы, --
Займаюся святою справай…
Не ведаю, ці маю нават права
Стаць мужам, бацькам; і маўчу таму я,
Я не прашу, каб стала ты маёю,
А без цябе так часта я сумую,
Прываблены тваёй красою!

Адно я добра знаю, Маргарыта, --
Нідзе не будзеш мною ты забыта.
Нідзе-нідзе
Мая любоў не прападзе.
Каханая, цябе я ўвекавечу
І ў Бога вымалю з табой сустрэчу!
Я мару пра цудоўнае спатканне,
Бо веру ў наша вечнае каханне.
Не быць, не быць табе забытай,
Сонейка-Маргарыта!
Доля мая -- Маргарыта!
Шчасце маё – Маргарыта!

5. Ашаламляльны поспех

Год тысяча пяцьсот дванаццаты…
Вядомы ў Падуі ўніверсітэт;
Там надвячоркам лістападаўскім
Сабраўся быў увесь навукі цвет.

“Дзеля чаго?” – спытаюць многія.
О, там савет славутых не драмаў:
Два дні прад ім іспыты строгія
Вучоны з Полацку трымаў.

Сваімі ведамі глыбокімі
Усіх Скарына малады скарыў:
Там доктара ступень высокую
Бліскуча ён абараніў.

Свяцілы ўсе вучоныя віталі
Францішкаў светлазорны талент,
Там праслаўлялі хлопца як маглі.
Авацыя грымела ў залі –
І воплескі, і воклічы гучалі
У гонар сына нашае зямлі.

6.Францішкавы жніво і сяўба

“…не толико словом, але и делом…”
Францішак Скарына

Год тысяча пяцьсот сямнаццаты…

Дзень шосты жніўня рушыў вобмацкам
Праз туманы… У гэты час
Пад слаўным горадам пад Полацкам
Ішло жніво якраз.

Ну а ў Скарыны ў Празе свята --
Жніва-сяўбы гарачая пара:
Сышло з друкарскага варштата
Найперш выданне “Псалтыра”,

Аздобленае, адмысловае,
Яго сагрэтае душой,
Бо створанае роднай моваю,
Даступна-яснаю, жывой.

Падобных будзе кніг нямала
У слыннага у кнігара…
Але здзяйсненне цуда-мары
Пайшло з выдання “Псалтыра”.

Якая велічная з’ява –
Ягоны пражскі першадрук!
Святая мара стала явай,
Бо кніга пойдзе ў рукі з рук!

Яе займее Полацк родны,
Яна не праміне людзей
Дзеля учынкаў добрых, годных,
Дзеля цудоўных, чынных дзей…

Сардэчна дзякуе Скарына
Сябрам спагадлівым усім,
Друкарні Паўла Севярына
І Празе, й землякам сваім.

Удзячны Бібліі і Богу,
Свяшчэннай полацкай зямлі,
Крутыя ўзгадвае дарогі,
Якія к поспеху вялі.

## 7. Кароткі маналог Маргарыты

Францішку мілы мой!
Вучонасцю сваёй
Еўропу ты скараеш.
З любоўю і з натхненнем
Выданні ўсё ствараеш.
Табе не да сям’і стварэння.

Шмат год не быў са мной сам-насам.
Адвернік Юры мне тым часам
Прапанаваў сысціся ў шлюбе,
Ў нас намячаюцца заручыны --
Не асуджай, Францішку любы!
З табой жа мы жыццём разлучаны…

8. Пачуццё Радзімы

"Понеже от прирождения звери,
ходящие в пустыне, знают ямы своя;
птицы, летающие по воздуху,
ведают гнезда своя;
рыбы, плавающие по морю и в реках,
чуют виры своя;
пчелы и тым подобная
боронять ульев своих, --
тако ж и люди, и где зродилися
и ускормлены суть по бозе,
к тому месту великую ласку имають".
З літаратурнае спадчыны
Францішка Скарыны

Пчолы бароняць вуллі свае…
Так і людзі ахоўваюць край свой родны.
Каб Радзіме быць свабоднай,
Біцца трэба за яе --
Адбівацца кожны раз
Гэтак мужна, па-геройску,
Як пад Воршаю Астрожскі,
Як пад Клецкам – Глінскі-князь.

Тыя воі ў грозны час,
Што стаялі за краіну,
Узрушалі, і не раз,
Палачаніна Скарыну;
І натхнялі узрасці
Рэнесансавым тытанам,
Слаўнай справай апантаным
У напружаным жыцці.

## 9. Самаадданы

Скарынаварты пахвалы
Усенароднай.
Да працавітае пчалы
Ён так падобны!
Ён мёд духоўны здабываў
Дзеля народу,
Уласных сіл не шкадаваў,
Сваёй свабоды.
Той мёд гаючы
Да святла
Дае памкненне
І ад бяспамяцтва і зла
Нясе збавенне.
Перамагае часу плынь
Скарына дбайны,
Той, што падобны да пчалы
Самаахвярнай!

## 10. У Вільні

Другая палова дваццатых гадоў.
Скарыну яго лёс у Вільню прывёў.
Дукаты і пенязі ён дастае –
Друкарскія рухае справы свае
(Бы з выраю птушкі, ўсё новыя кніжкі
У свет вылятаюць з друкарні Францішка),
Асветную дзейнасць сваю паскарае.
А што ў Маргарыты? Як замужам ёй?
Жанчына становіцца рана ўдавой:
Адверніка Юрыя смерць забірае.

***

Тут, якар кінуўшы з дарог,
Ва ўтульнай віленскай сталіцы,
Прыйшоў Скарына на парог
Да Маргарыты ў камяніцу.

Як і раней, у мора спраў
Хай акунаўся з галавою,
Каханне не ігнараваў
І ажаніўся з удавою.

Ён з ёю двух сыноў прыдбаў
І зведаў ласку, шчыраванне
І аніяк ён не ўяўляў,
Што блізка вір выпрабаванняў.

Пасля пажару ў Вільні мор
Людзей выкошваў нечакана.
Падкралася цяжкая хвор
І да Францішкавай каханай.

## 11. У агні

Варожы быў агонь, які
Знішчаў Скарынавы выданні.
Прынёс агонь, ліхі такі,
Пякельнае выпрабаванне.

Кнігар убачыў, як агонь
Выданні паглынае –
Здалося, што й душа яго
У тым агні канае…

Не толькі кнігі на кастрах –
І людзі мужныя згаралі,
А думкі-сокалы ў вяках
Над папялішчамі ўзляталі.

Каналі каты-крумкачы,
А словы  несмяротнай сілы,
Ад сэрца к сэрцу ідучы,
Імгненна набывалі крылы.

І нараджаліся на свет
З любоўю кнігі, быццам дзеці,
Каб не звяліся плод і цвет
Духоўнасці на белым свеце.

12. Расстанне

Францішак каля хворай Маргарыты,
Лячыць яе спяшаўся, суцяшаць,
Пра дзень, у клопатах пражыты,
Сабраўся ён з настроем ёй казаць.

Усміхнуцца, прыўзняцца яна хацела,
Хоць маленькую радасць яму падарыць.
Неслухмяныя вусны!.. Знямоглае цела!..
У грудзёх штось агменем гарыць!

У лекарскіх навуках доктар,
Які зацьміў свяцілаў, можа, сто,
Сярод вучоных мудры дока,
А перад хворай любаю – ніхто!
Ніхто-ніхто, калі ніяк не можа
Дапамагчы пакутніцы сваёй!
Няўжо ніхто, нішто не дапаможа
З хваробай цяжкай развітацца ёй?!

Францішак:

Ты стала жонкай, стала мамай,
Самой асноваю сям'і.
Не стань маёю цяжкай драмай,
Кашмарам дзён, начэй маіх!

Маргарыта:

І з далёкіх і з блізкіх дарог
Да мяне ты спяшаўся штосілы.
Я кахаю цябе, бачыць Бог,
І сыходжу…
За мной не спяшайся, мілы!..

Францішак:

Шчаслівы аж ад першага спаткання
Быў я, а сёння я ў журбе.
Маё адзінае каханне,
Маё цудоўнае каханне,
Не пакідай мяне, малю цябе!

Маргарыта:

Любы мой, ты мяне ўспамінай
Часта-часта, але без адчаю.
Я сыходжу, мой родны, бывай!
Не спяшайся за мной, заклінаю…

Белым тварам яна прыпадае
Да бялюткай падушкі льняной.
Завядаючы, цвет прападае
На кароткай пуціне зямной.

13. Няволя і вызваленне

Што вы нарабілі, крэдытары
Ўмерлага Францішкавага брата?!
Вы Скарыну прычынілі гора
“За даўгі”, а ён невінаваты!

Месяц люты снежны і марозны.
Месяц люты выпаў гэткі злосны:
У няволі смутак невыносны!..
Воляю павеяў май дзівосны,

Бо Раман-пляменнік – малайчына:
Не змірыўся з горкай дзядзькі доляй --
Караля патурбаваў хлапчына
І Скарыну вызваліў з няволі.

14. Высокай душы чысціня

“Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню”.
        З літаратурнае спадчыны
Францішка Скарыны

Сярод любові чалавечай,
Сардэчнай, шчырае такой,
Сутыкаўся з варажнечай
Неадступнаю людской.

Перасцярогай пэўных драмаў
Скарыны мудрасць паўстае:
Не капай пад другам ямы,
Сам увалішся ў яе!..

Скарына быў, і ёсць, і будзе,
Як сонца, ён да нас ідзе.
Ён дабра жадае людзям,
Міру, згоды між людзей.

## 15. Трыумфальнае святло
Трыпціх

### 1

У справах цудоўных
Вучонага сына --
Святло старажытнай
Адметнай краіны.
Ён – першадрукар,
Ён тварэц вечных кніжак –
Францішак Скарына,
Скарына Францішак!

Жыве яго Слова –
Ў ім дух адраджэння,
Малітва-замова
Супроць адчужэння.
Хвала табе,
Родная маці-краіна,
Што ты ўзгадавала
Прамудроага сына,
Што ты акрыліла
Францішка Скарыну!

### 2

Святло запаветаў
Прайшло праз вякі.
Далёкі Скарына
Нам блізкі такі!

Нібыта ікону,
Відаць, на вякі,
Малююць натхнёна
Яго мастакі;
І пішуць паэты
Пра подзвіг яго,
Ягонай асветы
Нязгасны агонь.

3

Бог кнігі, бязбожнікаў ён не карае,
Не ганіць нікога і не дакарае,
А ўсё прапаведуе людзям любоў
Да веры, да ведаў, сваіх каранёў.
Ён памятае берагі Палаты,
Вяртаецца з пройдзенай годна вярсты,
Ён нам, доктар духу, нясе ачышчэнне
І ад спусташэння жывое збавенне, --
Францішак Скарына, святы.

Чэрвень – ліпень, лістапад 2016

## Роздум над лёсам Кастуся Каліноўскага

Ёсць каты, ёсць плаха, пятля, ёсць турма,
Ёсць кара за трызненне воляй,
За праўду.
Дзе ж воля? Яе ўсё няма.
Няўжо і не будзе ніколі?!

*1988*

## Непісімістычная трагедыя

Кат на шыю накінуў пятлю
І з-пад ног тваіх выбіў зямлю,
Па якой Ты ішоў гэтак годна…
А душу не задушаць пятлёй,
А душа над зямлёй, над зямлёй,
А душа над зямлёй сваёй роднай
Узыходзіць змагання зарой,
Сонцам праўды ўзыходзіць свабодна,
Незабыўны народны герой!

*1985*

## …Пятлю здымаючы з паўстання

Калі прыходзіць верны час змагання, --
А ён – у ходзе ўсіх-усіх эпох, --
Любоў вышэйшую дае герою Бог
І з ёй – гатоўнасць да выпрабаванняў.
Няхай бы ворагаў Ты перамог –
О, як наш край расцвіў бы! Неўміручы
Ўладар, прарок свабоды немінучай,
Свой дух магутны ў праўдзе Ты збярог.
Каб волі час наблізіць, без ваганняў
Ідзеш, пятлю здымаючы з паўстання.

1988

## Праўда Кастуся Каліноўскага

Так, той толькі жне, хто пасее.
О, рукі ў сяўца не дрыжаць!
Пасеяць ён горкую праўду паспее,
Каб волю жаданую жаць…

Пятля абвіла яму горла,
У цемры патоплены дзень.
Ды мужнае слова не ўмёрла,
Магутнае рэха ідзе,
Ляціць над галечай, раскошай,
Ва ўсе далятае куткі.
…Мужыцкая праўда каштуе пяць грошай…
Няма ёй цаны, дзецюкі!

*1988*

## Мроя пра Кастуся-героя

У цішыні прымроіўся ён мне:
Нібы з’явіўся ў роднай старане,
Бы прыскакаў на бронзавым кані,
Расой адмыўся на святой зямлі
Ад Мураўёва-катавай пятлі,
Яму заззялі сонца прамяні, --
Паўстаў прыгожы, дужы, малады,
Бы й не было жахлівае бяды.
На  Беларусь ён з Вільні прыскакаў,
Красу-Марыську гучна пагукаў.
І спрахлі каты, следу іх няма,
І шыбеніца спрахла, і турма –
“Мужыцкай праўды” не перажылі,
То і не ўсё так горка на зямлі!..

*2005*

## Трагічны лёс паўстання Каліноўскага

У Кастусю жыў акіян свабоды
Найвелічнай з усіх людскіх свабод.
Яе хапіла б усяму народу,
Каб больш рашуча з ім пайшоў народ.

Страх за жыццё смяротнаю быў ношай,
Даносчыкаў паўсюль служыла раць,
Гатовая за акупантаў грошы
Святыню непадкупную прадаць.

Рашучасці народу не ставала --
Лавінай рынуць у паўстання вір…
Свабоды сэрца біцца перастала.
Аплаквала старонка – шкадавала
Павешаных,
Замучаных,
Сасланых у Сібір.

*Люты 2013*

## Тыповая карціна школьная

*Всё это было бы смешно,*
*Когда бы не было так грустно.*
*М.Ю. Лермантаў*

Старшакласнікам вершы чытаю
Пра таго, хто узняў паўстанне.
Так выразна ён паўстае:
Малады і прыгожы,
Але з лёсам трагічным:
Задушылі-павесілі хлопца
Ля Лукішак у Вільні…

“Пра каго йдзе гамонка?” –
Пытаюся ў юных.
Ды старэйшыя класы,
Бы вады ў рот набралі,
Маўчаць.
Даць гатоў я падказку –
Пра Марыську кажу я, пра тую
Чарнаброву гулубку яго…
Зацягнулася паўза… Гадаюць,
Нехта кажа: “Максім Багдановіч”…
Называюць яшчэ і Скарыну…
Смешна! Мне ж не да смеху,
Бо занадта і горка, і сумна.

*27.02 2013*

## З імём Тадэвуша Касцюшкі

Трыпціх

I

І кроў пралітая, і раны,
І Петрапаўлаўскі астрог –
Усё было, калі тыранаў
Перамагчы змагар не змог.

Пайшлі душыцелі свабоды
Па касінеравых касцях.
Прыгонных – як узнагароду –
Ім раздалі ў тваіх краях.

Але не мог прыняць няволю
Твой дух – паўстаў, яднаў людзей,
Ты клікаў іх да лепшай долі,
Да гераічных, чынных дзей.

II

Хай бы, Мухавец-рака,
Ты ўтапіла чужака,
Вераломнага ваяку,
Злога царскага сабаку,
Што з турэцкае мяжы
Бег сюды людзей душыць;
Хай бы гончую заразу
Напаіла да адказу,
Хвалямі пагнала ўраз
Ты суседзям на паказ…
Пераплыў твае ён воды
Дабіваць агмень свабоды.

III

О, цень Тадэвуша Касцюшкі,
Выратавальны, грозны цень,
Ты напужай прадажных служкаў –
Прыйдзі у гэты цьмяны дзень!

У сэрцы гнеў, гаркота ў горле
І крыўды даўкае камяк:
Тваё імя схавалі, сцёрлі,
А славяць ворага імя.

1991

У дзень, трагічны для Купалы

Вы кажаце, загадка – смерць Купалы.
Хіба загадкавы трагічны скон?
Улада бунтару не даравала:
За Беларусь калісь так біўся ён!

Бальшавікі злачынстваў цьму чынілі.
Дурная слава іх расце, расце.
Калі ў паэце Генія забілі,
У прорву цела скінуць шмат прасцей.

*28.06.2012*

## Заміж свята – базар

Чарговы юбілей Купалы.
Базар у Вязынку вязуць.
Прамовяць хто і што папала,
І цёткі станьчаць і спяюць.

Ну і гандляркі пашчыруюць,
Як на звычайным кірмашы.
Кагосьці й рух такі счаруе…
Ды дзе ж ты, свята для душы?!

Мне свята хочацца такога,
Каб радавацца мог да слёз,
Каб веры прыбывала многа
У шчасны Бацькаўшчыны лёс!

Бо не ў хаосе тым, вядома,
Не ў мястэчковай мітусні
Наблізіцца Прарок, якому
Аб Беларусі сняцца сны!

Убогая мая краіна,
Хай бы не ведаў я таго,
З якім размахам Украіна
Святкуе генія свайго…

Хоць не па свяце ў часе клятым
Душа Купалава баліць –
Па волі, без якой і свята
Сапраўднага не можа быць.

Баліць яна, як і балела,
Калі над краем ноч была,
Калі змагар адкрыта, смела
Народ зваў з цемры да святла;

Маўчыць народ.
                          Расчараваны
Высокі бронзавы пясняр.
І як адчэпнае -- мяшчане
Вязуць у Вязынку базар.

7.07.2012

## Лёс Максіма Багдановіча

…У хлопца – невылечныя сухоты,
Прычына для нуды, самоты.
Але ў яго здароўе ідэальнае
Патрыятычнае, маральнае,
Сябе ў чужыне ён стварае,
Аб шыраце духоўнай дбаючы;
Ён не самотны – кнігу мае, --
Усведамляе, паміраючы…

Жыццёвы лёс – такі трагічны!
Але шчаслівы – паэтычны,
Перамагае дух стваральны:
Сын Беларусі – геніяльны!

*13 снежня 2011*

## Пісакам, што без прымусу перабеглі…

Калі ніхто вас не купляў,
Што вас так лёгка падкупіла?
Вас узяла не спакваля
Якая д’ябальская сіла?

Карціць вам выдацца хутчэй.
Глыбей жа думалі няхай бы!
Вам славы хочацца яшчэ,
Ды славу блытаеце з ганьбай.

Вам прэмій хочацца, ага,
Халера аж бярэ з каростай.
Вам незнаёмая туга,
Народная туга ды роспач!

Ды поруч з вамі ёсць арлы,
Яны ўсе з вамі выпадкова…
Хоць гэты лік такі малы,
Для боскай справы – дастатковы.

Мы іх сумеем апраўдаць
На будучым судзе на грозным.
А вам не ўцекчы ад суда –
Ён будзе рана а ці позна!..

Жыццё пражыць – не перайсці
На поле з поля дый не збегчы –
Ісці за праўду й волю
ці
Пад іх хоць бы ў падмурак легчы.

*Ліпень 2012*

## Незвычайны сон

Прыснілася, нібыта ў нейкай залі
Ішоў адкрыты незвычайны суд,
Дзе быў падсудны Джугашвілі (Сталін),
Суддзя – народ, звычайны самы люд.

Народ ішоў бясконцаю калонай,
Дакор і гнеў кідаў у твар таму,
Хто адпраўляў на здзек і смерць мільёны,
Цаніў рэжым крывавы і турму.

Абуджаныя існаю свабодай,
Судзілі людзі вырадка таго,
Шукаючы хто “ворагаў народа”,
Стаў самым жорсткім ворагам яго.

*1986--1987*

## У Курапатах

Ах, Курапаты, Курапаты!
Народны боль і гнеў народны.
Тут, “чорным воранам” узяты,
Забіты чыйсьці бацька родны,
А чыйсьці брат, а чыйсьці любы.
О, колькі тысяч абылганых
І тайна звозімых на згубу
Закатавана, закапана!

Не ўцёк ніхто з жывых ахвяраў
Ад інквізітараў чырвоных.
Чаму ж няма забойцам кары?!
І дзе паклёпнікаў імёны?
Маўчаць суды, маўчаць архівы
І следчыя, хоць сведкаў – мноства.
І дажываюць век шчасліва
Арганізатары забойстваў.

*1988*

## На мяжы

*Зразумець, што ты – народ…*
*Янка Сіпакоў*

Цікавасць у нас да надвор'я прагнозаў,
Хай вечар ці ранне.
А тут не пагроза ўраганаў якіх ці марозу,
Над нацыяй нашай паўстала пагроза
Фізічнага ўжо вымірання.
Да слыху, да зроку, да сэрца
ўсё весткі даходзяць благія:
Ў агні, на вадзе, на дарогах
мы гінем і гінем;
Мы гінем паўсюдна
ад градусаў горкіх і лішніх;
Так мала, здаецца, ратуе, а ўсё забірае
Ўсявышні.
І д'ябал не спіць – нас пачвара-хапун
выкрадае:
Не банда якая, а ўсё смельчакі прападаюць.
Менш радуюць пушчы, грыбы
і суніцаў паляны.
Чарнобыль злавесны над намі
і цень Бараўлянаў.
Смяротнасць пануе
над святам жыцця нараджэння.
Няўжо гэта краху паскоранае набліжэнне?!
Няўжо так трагічна, так глуха, так нема,
Як статак тарпанаў,
Мы сыдзем пад велічным небам?

Няўжо гэтак наканавана?!
Няўжо гэты ШЛЯХ,
што быў продкамі нам пратаптаны
Праз пекла насілляў і войнаў,
Нашчадкамі-намі ужо і праспаны
Й забыты нібы дабравольна?!
Душою да ісціны прагну прыпасці,
мой Божа:
Што даў Ты Сусвету, навечна прапасці
не можа!
Не можа? А скіфы, сарматы, хазары
дзе сёння?!..

Мы смела на кухнях адно мітынгуем
базарна,
Але па натуры мы ёсць маўчуны
або соні!
І сцяг, і пра мовы Закон мы праспалі,
Пра шмат беззаконняў
якой бальшынёй прамаўчалі!
Дык што на Зямлі мы і ў Космасе значым?
Што можам з'іначыць?
Як рыба аб лёд,
мы аб новыя б'емся задачы,
А выйсця з галечы не бачым.
Ці ж толькі з галечы?
Хутчэй – з псіхалогіі яўна авечай:
Дзе паша, дзе хлеў,
дзе пастух з яго пугай?..
І ходзім уніз галавою азначаным кругам.
Вярхі забаўляюцца, цешаць хаўрусам
з Расіяй.

Ах, збаў нас, Месія:
Сама ж у дрыгве і ў тумане Расія…
Не дай нам, Гасподзь, растварыцца
У межах чужых,
У бяздарна-фальшывых хаўрусах
размыцца –
Навекі між роўных краінаў і нацый
Магчымасць дай нам, беларусам, застацца
І нам незалежным народам дай стацца,
Не згінуць, нібы тур апошні ці мамант.
Маліся за нас на нябёсах, пакутніца мама.
Ты, Маці Ісуса, Марыя, за нас заступіся,
за грэшных,
Грахі адвядзі і развей рой сумненняў
няўцешных.
Дай сілы найперш не памерці духоўна –
Хай збудзецца дзіўнае дзіва:
Адчуем нябёсаў саміх знак ахоўны,
Заплешча жыццё, закрасуе цудоўнаю нівай!
Свядомасць і памяць
Прачнуцца, памогуць уцяміць:
Народ – не за морам і не за гарамі,
Народ – гэта толькі мы самі,
З нас кожны,
І кожны, душою заможны,
Шчыруе за волю Радзімы,
Бо помніць: “Не хлебам адзіным…”
Жыцця сэнс убачым – і долю з’іначым.
І ўбачыць Сусвет, што і мы штосьці значым!

*10 – 12.02.2001*

## Замова за родную мову

Ойча наш міласэрны нябёсны,
О, пачуй просьбы горкае словы:
Адвядзі, Божа, глум невыносны
Ты ад нашай прачыстае мовы.
Усім людзям з жывою душою,
Як паветра, вада, зямля плодная,
Трэба слова, але не чужое,
А навекі вякоў слова роднае.
Адвядзі ад яго занядбанне,
Ад знявагі яго захіні
Ды благое яго існаванне
Паўнакроўным жыццём замяні.
Ойча наш цудадзейны нябёсны,
На людскія учынкі зірні:
Нам зямлю палівалі агнём і крывёй,
І Чарнобыль пакінуў свой след
смертаносны, --
Нам бракуе аховы Тваёй.
Шматвяковых пакутаў і болю
Нам даволі, даволі, даволі!
Спаконвечнае наша памкненне да волі –
Костка ў горле шайкамварожым.
Наша мова ім так замінае!
Заступіся за нас, моцны Божа, --
Слова продкаў хай гора не знае!
Не пусці яго, Божа, на звод,
Памажы, памудрэў каб народ,
Каб святыні свае ён бярог…

О, магутны, о, праведны Бог!
Нас бяспамяцтвам Ты не карай,
Сябе самі бязбожна караем,
Цябе молім: краіне назвацца не дай
Зноў паўночна-заходнім краем!

*2000,*
*Вясна 2014*

## Замова ад рабства

Сотні год панаваў тут захопнік
драпежны.
Сотні год наш народ быў бяспраўны,
залежны.

У крыві акупанты паўстанні тапілі,
Да свабоды памкненні паўсюдна душылі.

Касінераў-паўстанцаў бандытамі звалі
І павешанымі малых дзетак пужалі.

Ліхадзействы арла прадаўжаў “чорны воран”
(Змалку ты, беларус, быў для нелюдзяў вораг).

Моцных духам расстрэльвалі ўлады ліхія
І пасеялі страх на гады на даўгія.

Вынік сумны – рабоў узраслі пакаленні:
Пачуваюць няблага сябе на каленях;

Лёгка спінам сагнёным даюцца паклоны,
З псіхалогіяй рабскай не выйсці з палону.

Нават многія з тых, што паверылі ў Бога,
Ігнаруюць святое і прагнуць чужога;

Любяць болей каўбасы,
чым родную мову…
Я ж ад з’явы агіднае маю замову:

Божа літасцівы, ўсемагутны,
Ты людзей беларускіх няшчасных
Збаў ад цяжкай хваробы, якая
Можа стаць невылечна-хранічнай;
Ураган нам пашлі цудадзейны
Ды на ўсю, чыста ўсю Беларусь,
Хай пранікне ў кватэры і хаты
Скразняком ачышчальна-рашучым,
Забярэ, возьме з сэрцаў, пячонак,
А найперш, безумоўна, з мазгоў
Недарэчных мільёнаў нябогаў
Рабскі страх і залежнасць тупую
Ад чужое настырнае волі
І няхай панясе тыя беды
На сухія лясы, на гнілыя балоты!
Каб яны там навекі прапалі!
Ты вярні, Усявышні, няшчасным
Здольнасць мысліць зусім незалежна
І магчымасць як след гаспадарыць.

*2005, 2012*

## Відовішча памяркоўных

Жыццё – тэатр і людзі ў ім – актары,
Я перконваюся год каторы;
З адвечнай сцэны матухны Зямлі
Трагедыі дагэтуль не сышлі.
А нам Бог даў, як надта памяркоўным,
Трагічнага й камічнага пароўну:
Трагікамедыя ў нас, як нідзе,
Бесперапынку з пафасам ідзе…

*Снежань 2010*

***

*Светлай памяці*
*Ю. Авяр’янава*

Пякучая такая рана:
Забіты Юра Авяр’янаў!

Чаму, завошта ён забіты?
Быў смелы і таленавіты,

Быў беларускі, быў свядомы…
Быў не заслужаны – вядомы.

Быў і няма. Скразная рана.
Зло аніяк не пакарана.

Сляды злачынства ўсе раcталі
Раней чым цела пахавалі.

Забіта плоць, і кроў забіта,
Каб голас, вобраз стаў забыты?

А голас быў з душой суладны
І смерці ён непадуладны!

А вобраз быў высакародны,
Ён нашай будучыні – родны.

*Студзень 1996*

## Суровая рэальнасць

Памяці Ю. Захаранкі
і ўсіх тайна знішчаных

Не сталінскі быў чорны час,
Не час ваеннае навалы,
Калі гвалтоўна скралі ў нас
Вядомага ўсім генерала.

Ён у народзе знаным стаў,
Як трапіў раптам у апалу.
Край ціхамірны моцна спаў,
Калі не стала генерала.

Знік, быццам кануў у ваду,
Пад ноч забраны хеўрай хвацкай
(Так неўзабаве прападуць
Ганчар, Красоўскі і Завадскі)…

Старая маці хоча знаць,
Як сын прапаў, суда чакае…
Прывык народ залішне спаць
І жыць з бядой не адвыкае.

2014

## Паэт купалаўскага гарту

*Светлай памяцi Нiла Гiлевiча*

Спачыў песняр, не скажа больш
Слоў пранiкнёных, палымяных,
За нашу Бацькаўшчыну боль
Больш не вярэдзiць сэрца рану.

Ён, дум высокiх валадар,
Прайшоў сваю дарогу годна,
А больш за ўсё жадаў змагар,
Каб Беларусь жыла свабодна.

За мову i за родны сцяг
Змагацца ўсёй iстотай мусiў,
Праз церні церабiў ён шлях
Да незалежнай Беларусi.

Герой, над кiм не ўладны час,
Любовi нашай вечнай варты.
Быў, ёсць i будзе ён у нас,
Паэт купалаўскага гарту.

*29--30.03.2016*

***

*У. А. Калесьніку*

На полі маёй душы
(Праменняў ёй бракавала
І руху было замала)
У соннай глушы
Пустазелле прастору знайшло,
Расло яно, аж буяла,
Ўсю ніўку амаль заглушала,
З’ядала слабое святло.
А Ты ў пустазеллі густым
Заўважыў
Кволых некалькі каласкоў
І ўзважыў,
О, з надзеяй узважыў Ты!..

Настаўнік мой, дбайлівы самы,
Мая ўся душа страпянулася
І ўсімі тады каласамі
Да сонца памкнулася,
Я прагнуў і прагнуў святла,
Знішчаў пустазелле да тла.
Ўзраслі каласы. Далі зерне.
Я ж ласкі Тваёй не забыў…
Да цемры душа не паверне,
З ёй – свята жніва і сяўбы!

*1972, 1992*

## Верасень

*З.М. Калесьнік*

Хай не сінеча – просінь
У неба вышыні,
Няхай не лета – восень
Запальвае агні.
Пад зорачкай кляновай
На горачку ступлю.
У гаі вераснёвым
Памарыць я люблю.

Часіна успамінаў
І роздуму пара…
Мне цёпла ля рабіны
Высокага кастра,
Калі ў сяброў, я знаю,
Падзея, навіна,
Калі іх вочы ззяюць
Ад жартаў, ад віна…
Мой верасень, ты дорыш
Мне  светлую тугу
Па людзях, якіх доўга
Не бачыць не магу.

*1982 (?)*

## З радасна-шчымлівым пачуццём

У маім запаветным горадзе Берасці
Я сустрэўся з Калесьніка вуліцай,
Прафесара і пісьменніка, аўтара
Узрушальнае кнігі “Доўг памяці”,
Патрыёта чароўнай зямлі,
Які юнаком ваяваў за яе ў партызанах,
Быў паранены цяжка, страціў многа сяброў
Баявых,
Страціў любую, невыказную,
Што яму часта снілася
У бялюткай сукенцы з крыламі вэлюма,
З таямнічаю мілаю ўсмешкаю…
Я сустрэўся з Калесьніка вуліцай,
Чалавека, які праз сухоты, шмат іншых бедаў
Прыйшоў да вяршыняў навукі…
Я сустрэўся з Калесьніка вуліцай
Адначасна ў радасці й смутку,
Бо яна, тая вуліца, -- на ўскраіне места,
А не там, дзе ён жыў,
Дзе штодня ў альма-матэр хадзіў,
Бо, як бачыце, там ёсць Чапаева вуліца,
А яшчэ недарэчная вуліца Крупскае…
Я сустрэўся з Калесьніка вуліцай
Не ў тым месцы, бо ў часе не тым…

*18.06, 30.07.2012*

## Лад

*Сяргею Карыцьку*

Лячэбніцай шматпрофільнай, складанай
Кіруе чалавек самааддана.

Сказаць дакладней трэба: не кіруе –
Ён пра людзей клапоціцца, шчыруе.

На пульсе спраў усіх руку трымае –
У справах арытмію не прымае.

Для падначаленых – шэф справядлівы,
А дома – сем’янін ён клапатлівы.

А ў час, калі на небе зорак поўна,
Страчаецца ён з музаю чароўнай,

Каб мовай беларускаю сардэчнай
Пагаманіць як след аб чымсьці вечным.

Ён ведае, якія лечаць словы,
Знаходзіць іх для песняў адмысловых,

А тых, што раняць, не жадае крануць,
Не сумяшчае з клятвай Гіпакрата.

*1–3.04.2016*

***

Выгодаў шмат гатоў аддаць я
За шолах жыта і бяроз
У краі, дзе магіла маці,
Дзе нарадзіўся я і ўзрос.

Аддам спаўна душы багацце
Краіне самых лепшых кроз,
Каб не памерла мова маці,
Адно з якой мой шчасны лёс.

*6.06. 2011*

## Беларуская мова

Табою, бачу, пагарджаюць,
Табе знішчэннем пагражаюць…
Каму і чым не дагадзіла?
Ты свету геніяў дарыла,
О маці-мова! Тваё слова –
Паветра для душы жывой,
Заўсёды мне, славянка-мова,
Такі гаючы гоман твой!
А ты сама – душа народа,
Яго краса, яго прырода;
Народ, насіллем катаваны,
Праз навальніцы, ураганы
Цябе, адвечную, пранёс.
Ты неахопная -- як воля,
Ты незаменная – як доля,
Ты, мова матчына, – мой лёс!

*1985*

## Бязмоўнае сіроцтва

Народ працавіты, адораны, ўмелы
Сябе не згубіў праз вякі,
І мне ганарыцца б, о свеце мой белы,
Няквольм народам такім,

Ды родная мова ў загоне.
                                        А дзеці –
Сіроткі кругом без яе.
Мне сорамна, белы мой свеце!
Апушчаны вочы мае.

*1988*

## **Такія перамены**

Калі ўлады раёна,
Дагаджаючы ўладным вярхам,
Зачынялі клас беларускі
Ў сто сорак восьмай школе сталіцы,
Мілы хлопчык Алёша
Да настаўніцы шчыра звяртаўся:
-- А давайце мы выкупім клас наш!..

Час прайшоў,
хлопчык вырас
І цяпер
пры сустрэчы з настаўніцай
Кажа: “Здрасьце!”

*21.02.2012*

## Рэагую на зло

Калісьці я ў тунэлях і ў вагонах
Дарыў музыкам грошы й спевакам,
Нікольки не зважаючы на тое,
Што граюць і спяваюць што яны.

На хвалі адраджэння Беларусі
Я ў найцудоўнай эйфарыі быў,
Упэўнены: дзяржаўнай нашай мове
Ніщто не пагражае і ніхто…

Цяпер, калі святую нашу мову
Скрозь гоняць, б’юць, каб вынішчыць яе,
З вачэй сыдзіце, спевакі й музыкі,
З чужою мовай разам. Прэч!

*22.02.2012*

## Горкая іронія

Год кнігі,
Тыдзень мовы,
Дзень пісьменства…
Застаецца прыдумаць:
Гадзіна беларускага патрыятызму,
І пагрукае ў сэрцы хвіліна маўчання.

*10.03.2012*

## Словы сэрца

З кім падзяліцца горам:
Мне за дзяржаву сорам --
За “непуцёвую дачку”,
Што выраклася маці.
Хто мне цяпер падасць руку,
Чужому ў роднай хаце?..
Трывалі доўга й набылі
Гнеў майго сэрца словы.
Дзяржава блудная, калі
Да роднай прыйдзеш мовы?

*2013*

## Адзіная просьба да лёсу

Сумленню не хачу схлусіць:
Я рады, што не давялося
Мне шмат пра што ў цябе прасіць,
Няшчодры мой, спакойны лёсе.

Адно даводзіцца прасіць
З упартасцю неверагоднай:
Дай мне Радзіме паслужыць
Абеларушанай, свабоднай!

*1991*

## Кніга не здрадзіць

*Людміле Несцяровіч*

У нашым свеце мітуслівым,
У агрэсіўным і хлуслівым,
Дзе не дае спакою ліха,
Паўстане радцай добрай кніга;

Багатая сардэчнай мовай,
Яна ў будзёншчыне суровай,
Дзе здрадаў цьма і звадак поўна,
Сяброўкай можа стаць цудоўнай.

Дзе шмат выпрабаванняў вечна,
Хвароб і стрэсаў небяспечных,
Тут кніга мудрая стаць можа,
Бясспрэчна, лекаркай харошай.

У драматычным свеце й тлумным,
Дзе шумных шмат падзей і сумных,
Ад усялякіх  бедаў, ліха
Яна дапамагае ціха.

Яна не лішняя і ў шчасці,
Калі забыты ўсе напасці.
Дапоўніць можа кніга радасць.
Яна табе не можа здрадзіць.

Усім і кожнаму я зычу
(Жадання, хочаце, пазычу)
Сустрэцца з кнігаю цудоўнай,
Каб шчасце піць. Ды з чары поўнай.

*Люты 2011*

## Шчырае шкадаванне

Быў я ў Парыжы і ў Парыжы не быў,
Калі не наведаў куток,
Дзе сном вечным спяць
Мой самы любімы
З усіх Нобелеўскіх лаўрэатаў –
Празаік Іван Бунін
І мой самы любімы
З усіх чэмпіёнаў свету па шахматах –
Аляксандр Алехін.

Хоць і ведаю я:
Не так важна –
Пакланяцца праху,
Калі пакланяешся духу,
Аднак жа…

Калі перад сном узгадаю,
Што быў я ў Парыжы
І ў Парыжы не быў
(Бо не наведаў куток,
Дзе сном вечным спяць…),

То й сон не бярэ мяне.

*26.08.11*

## Дарунак для любай

Францыі лепшыя кветкі
Ахвяравалі сабой,
Каб да цябе як данесці
Водар загадкавы свой.

Водар цудоўны, ласкавы,
Што ён табе прашаптаў
Тою чароўнаю мовай,
Моваю кветак і траў?
.

*26.09.2003*

## Дзявочыя вочы

Такіх не бачыў я вачэй:
Агонь і лёд, зеніт і яма…
Не знаеш ты сама яшчэ,
Якая тоіцца ў іх драма.

*30.07.2012*

# УСПАМІНЫ МАЛАДОСЦІ

## **Краса**

Беларуская зорка-дзяўчына:
Мілы твар,
Вочы поўныя чар,
Чараціна-пастаць…
О, такую красу апяяць немагчыма,
Мо яе толькі можна на скрыпцы сыграць!

*Лістапад 2011*

***

Мроя мая прарасла
З макавага зернейка,
Узнялася пад сонцам.
І не зломіць яе тарнада,
Не змые цунамі,
Не спаліць маланка,
Бо мроя мая – святая.
Мроя мая – ты!

*Чэрвень 2013*

## **Інтым**

Ад  цябе мне нічога не трэба,
Адно толькі пацвердзі
Маю нестандартную дзёрзкую думку:
Кветка вуснаў тваіх, што цвіце і не вяне,
Расцвіла для пяшчоты маіх пацалункаў,
Спакушальныя формы грудзей,
Што, як хваля, ўзнімаюцца лёгкім дыханнем,
Так і просяцца ў мора
Маіх нестамлёна-гарачых абдымкаў…--
І тады, о тады
Буду я шчаслівейшы за ўсіх!

*18--19.05.2012*

***

Крокі твае
Рытм задавалі вершам маім,
Калі набліжаліся.
Вочы твае
Рыфмы дарылі,
Калі мне ўсміхаліся.
Сэрца тваё
Даравала натхненне і плён,
Калі грукала поруч – з маім ва ўнісон.

*10. 05. 2016*

## Толькі сэрцам закаханым…

Калі ў сэрцы маім рана,
Цяжка рану залячыць.
Толькі сэрцам закаханым
Мне ты зможаш памагчы.

Ты да раны прытуліся
Чыстым сэрцайкам сваім,
Чуцці нашы каб зліліся
У настроі маладым.

## Шчодрасць ласкі

Не брыльянтамі й золатам
Лашчыў я твае вочы –
Лашчыў іх сваёй ласкаю,
Да мілосьці ахвочы.
Шчодра я аддаваў цяпло,
Лашчыў вуснамі вусны
І раскошу грудзей тваіх,
Маладых і спакусных.
І пад сонцам, пад месяцам
Я кахаў. І за тое
Ты сваё ўдаравала мне
Сэрцайка залатое.

*2--3.03. 2012,*
*8--9.01. 2013*

## **Цудоўны голад**

Дыпціх

1

Жаданым быць хачу –
Такі ў мяне цудоўны голад.
Я да цябе, як птах, лячу –
І нарываюся на холад.

Змірыцца цяжка так
З нязваным холадам дзявочым.
Мне з ім не звыкнуцца ніяк:
Кахання жар спазнаў аднойчы!

2

Кахаць хачу. Хачу кахаць!
Жадання мне не ўтаймаваць,
Як не ўтаймуеш ураган
А ці глыбокі акіян.
О, невымоўная мая!
Табой жыву і трызню я.
А ты маўчыш. А-у-у-у! Дзе ты-ы-ы-ы?
Цябе чакаць з якой вярсты?

*14--24.07.2012*

***

Ты – мёд з атрутай для мяне,
Ты для мяне – з шыпамі ружа,
Чаму – не ўдумваешся дужа…
Ты – мёд з атрутай для мяне.

Кахання жар шчэ не астуджан,
Яму б давеку палымнець!
Ты – мёд з атрутай для мяне,
Ты для мяне – з шыпамі ружа.

*2013*

## Які твой прастор?

Мару, каб позірк ты свой адрывала
Ад вечаровай зямлі як часцей,
Каб сярод зор ты пасланні чытала
З промнем маіх закаханых вачэй.

Ні адзінока не будзе, ні сумна,
Ведаць бы, што ў нас адзіны прастор,
Што і з мабільнічкам модным у сумцы
Свой ты скіроўваеш позірк да зор.

*27.07.12*

## Вяртанне з паўнябыту

*І.М., Л.В. Мельнічукам*

Бяда з’явілася аднойчы
Нанесці свой адкрыты ўдар
І ў скронь ударыла той ноччу,
Аж страціў памяць гаспадар!
Ляжаў, бязмоўны й нерухомы,
Ляжаў, бы непрысутны, ён,
Ягоны стан быў так падобны
На непрабудны вечны сон!

Ён ні на міг не быў забыты:
Радзіна не змыкала воч –
Яго вяртала з паўнябыту
І дзень, і ноч, і дзень, і ноч,
Купляла рэдкасныя лекі,
Маліла Бога, каб памог, --
І Бог адкрыў яму павекі,
Вярнуў і мову яму Бог.

Вярнулася нябогу памяць,
І дом, і храм яму відаць.
І застаецца толькі ўцяміць,
Адкуль прыходзіла бяда.

*5 --7.01.2013*

## **Багоўка пасля зімы**

Багоўку ўбачыў на праталінцы,
Падняў, паклаў на даланю.
Яна ледзь-ледзь заварушылася
Каля гаючага агню.
Жывая! Вось твая праталінка…
Яшчэ мо ўбачымся з табой.
Ты сонцу радуйся, баговачка.
Віншую, мілая, з вясной!

*18.04.2013*

## Беларуска ў Іерусаліме

*С. Абдулаевай*

Яе музыкальныя пальчыкі
Свечкі запальвалі,
Свяшчэнны агонь не чах,
Полымцы яркія ззялі
Ў ясных яе вачах,
І вусны малітву шапталі
У Дзень Нараджэння Хрыста;
Светлую пані Свету
З паломнікамі шматлікімі
Храма святымі лікамі
Іерусалім прывітаў.

У першай святыні свету
Яна ўпершыню пабывала
За лепшыя леты свае.
І штось ёй там падказала
Паставіць за друга свечку,
За грэшнага творцу, каторы
(Пра тое яна і не знала!)
У беларускай прасторы
Маліўся тут за яе.

*11.01. 2013*

## Адкрытае слова

Катастрофа мрояў, катастрофа мэтаў,
Я не ваш палонны! Ведайце пра гэта.

Я даволі стойкі і загартаваны.
Змалку белым светам я зачараваны.

Мне сяброў надзейных даравала доля.
Ад жыцця залежны, ды шаную волю.

Я люблю усмешкі у людзей на тварах,
Сам смяюся часта й па-юнацку мару.

Справаў неадкладных у мяне багата,
Часам плёну будняў замінаюць святы.

Скардзіцца за працай мне не выпадала.
Мо таму й дагэтуль вы мяне не зналі,

Катастрофа мрояў, катастрофа мэтаў;
Мне вы не пагроза – верыць буду ў гэта.

*30. 01. 2013*

## Творчасць вязня ўратавала

(цыкл з пяці вершаў пра шахматы)

Ён трапіў ні за што на Калыму,
Не павязло пры Сталіне яму:
Быў ліхадзей-паклёпнік накляпаў…
Аднак жа духам чалавек не ўпаў!
Фігуркі з хлеба пакрысе зляпіў,
І шахматныя клеткі начарціў,
І, справаю любімай паланён,
Ствараў задачы і эцюды ён,
На голад і на стому забываў,
Па вольнай волі меней сумаваў.
Ён талент і душу сваю збярог,
ГУЛаг яго ніяк не перамог.
Дыктатар здох, і трон насілля спрах,
І пацярпеў рэжым паклёпаў крах.
Іх творца пераўжыў, застаць паспеў
"Правадыра усіх народаў" скон.
Нашчадкам прыгажосць пакінуў ён
І сілу духу творчасцю апеў.

*2010, 2012*

## Пакаянне

Пасля многіх турніраў,
Асабліва пасля перамог,
Што прыносілі радасці мора,
Ўспаміналіся многія рэчы,

Натуральна, прыгожыя партыі,
Твараў выразы мной пераможаных
І нястрыманых грубыя словы…
Мог успомніць не раз гэтаксама
Землякоў-шахматыстаў заядлых,
Слёзы школьніка пасля паразы
(Перамогай я ўкрыўдзіў яго),
Незвычайнае прозвішча Б у л а х –
То мой школьны настаўнік,
Ён да шахмат любоў прышчапляў…

Сваю памяць лічыў я выдатнай.
Ды які ж я бяспамятны ўсё-ткі,
Больш за тое – яшчэ і няўдзячны:
Забываў я Вас,* бацечка родны,
Вы ж найпершы якраз паказалі
Мне, малому, ўсю шахмат красу.
Пэўна, шахматы Вам памагалі
Пяць гадоў у вядомым ГУЛагу…
Так шкада, не сказаў я ні разу
За такі пажыццёвы дарунак
Сваё шчыра-сыноўняе дзякуй
І ні разу ў жыцці не згуляў
З Вамі партыю.
Памяць мая
Не дае мне цяпер супакою.

*Люты 2013*

…………………………….[1]

*У Камянецкім раёне, як і шмат дзе яшчэ, да бацькі й да маці звяртаюцца на “вы” (заўвага аўтара).

## Аляксандру Імбру

Люблю азартных шахматыстаў,
Самой Каісаю натхнёных,
Красою шахмат паланёных,
Душой і сэрцам прамяністых,
З характарам неамбіцыйным,
Ды з воляю да перамогі.
Стыль гульнявы у іх не ўбогі –
Багаты ён, камбінацыйны.
Люблю любоўю шчырай самай
Я не панылых шахматыстаў –
Неардынарных аптымістаў,
Што не завуць няўдачу драмай.
Няхай такіх не надта многа,
Ды ёсць яны, іх чую, бачу,
Я веру ў іхнюю удачу,
У прыгажосці перамогу.
Вядома мне дакладна гэта,
Што ёсць і ў шахматах паэты.

*19.08.2013*

***

Майстар вельмішаноўны Сайгін!
Я звяртаюся ў думках да Вас,
Уладзімір Сяргеевіч, у Вашу вечнасць.
Пасля Брэста да Вас не звяртаўся ні разу,
Хоць і згадваў не раз Вашую самавітасць.
А прайшло больш як сорак гадоў.

Сёння я ўпершыню даў сеанс
Адначаснай гульні на сямі толькі дошках.
Праўда, ўсіх я “пакрыўдзіў…”
Аднаму юнаку два падказвалі хлопцы,
Але я не пярэчыў:
Мне яны дадавалі азарту.

І міжволі ўзгадаліся Вашы сеансы.
Я гуляў з Вамі двойчы –
І абодва разы паспяхова:
Двойчы Вы паваліілі свайго караля.
О, мяне, юнака, гэта ўражвала моцна!
А цяпер я хачу павініцца:

Адзін раз скарыстаў я падказку
(Мне Сярожа Уткоў падказаў моцны ход) –
І таму я з рахунку здымаю адну перамогу.
Хоць для Вас гэта дробязь, напэўна:
Вы ж былі сем разоў чэмпіёнам краіны,
То наўрад ці трымалі ў галаве дробны вынік…

*Сакавік 2013*

## Роздум у РЦАПе

*Шахматным фанатам*

Здаецца, гэтак будзе вечна…
Дасціпны, ветлівы і дзейсны
Наш майстар знакаміты Ройзман
Праводзіць зноў турнір чарговы,

Хоць мае восемдзесят летаў.
У залі зноўку мнагалюдна –
Ад юных і да ветэранаў.
Бывае ж гросмайстроў багата
(І сярод іх – Купрэйчык Віктар
Наш легендарна-знакаміты),
Майстроў яшчэ, вядома, болей,
А яшчэ болей кандыдатаў,
Якіх Дзямідаў часта “крыўдзіць”
Васьмідзесяцітрохгадовы,
Ён з юных год першаразраднік.
Звычайна тут Сычоў бывае,
Задач выдатнейшы стваральнік,
Славуты і неганарысты;
Ледзь-ледзь ад гора адыходзіць:
Не так даўно быў сын забіты!
Складаных тут нямала лёсаў…

…Турніра пушчаны гадзіннік –
Пяць тураў за адзіны вечар.
Пацешна бачыць, як малыя
Перад кажнюткім новым турам
Бягуць да Якушава жвава, --
Кампутаршчык той адмысловы
Табліцу выдае імгненна --
Малым цікава: з кім гуляць ім?..
І ўсім цікава! Перад “боем”
Сябе шукае ў спісе кожны:
“Што там “навaражыў” кампутар?”.
Вулканяць шахматныя жарсці!
Здаецца, гэтак будзе вечна:

Сюды прыходзіць вечна будуць
Нястомны й памятлівы Ройзман,
Сычоў, славуты кампазітар,
Купрэйчык Віктар, геніяльны…
Між тым імклівая й незваротна
Лятуць у вырай нашы вёсны.

*17.08.2012*

## Партрэт таго, хто зоры чытаў

*Светлай памяці Алеся*
*Пісьмянкова*

На трамвайным прыпынку
Спаткаў нечакана
Чалавека прыгожага дужа:
Чуб і вусы пшанічныя,
Бровы, бы крылы жураваў,
Вочы добрыя, пранікнёныя,
Голас мужны, такі басавіты!..
Прыязна ўсміхаюся і пытаюся:
-- Каго любіш?
-- Люблю Беларусь, -- адказвае
З усёй уласцівай яму шчырасцю.
Як жа йнакш ён мог адказаць,
Калі ўся яго творчасць
Саткана з любові да Бацькаўшчыны,
Да людзей, --
Так дыктавала яму яго вялікае сэрца,
Якое рана, ой рана спынілася!
Але б'ецца яно несупынна, няўтомна
У радках, між радкоў
Зорных вершаў,
Пераказваць якія – грэх,
Чытайма, сябры, чытайма,
Як зоры  чытаў паэт.

*25.02. 2013*

**Ялінка Салаўёва**

Дыпціх

1

У дзесяць год сваіх Ялінка
Мяне з Днём ВОЛІ віншавала.
Мне незвычайная дзяўчынка
Не па-дзіцячы пажадала,
Каб аптымізм і рашучасць
Дапамагалі у жыцці…
З такою аўрай слоў -- на кручу
Любую можна узысці;
Скарыць магчыма Гімалаі,
Да зор дарогу пралажыць…
Ды закавыка ёсць малая:
Як нерашучасць пераджыць?
2

Я сёння не адну хвілінку
Ўглядаўся ў твой партрэт, Ялінка,
Найболей вочы вывучаў –
У іх, прыгожых, пранікнёных,
Убачыў розум твой натхнёны,
Характар цвёрды прачытаў.

Не хочаш здрадзіць роднай мове,
Адзіная ты ў Магілёве
Сярод шматтысячнай дзятвы.
Ды не адна, Ялінка, будзеш,

Вітаюць Бацькаўшчыны людзі
Цябе і подзвіг твой жывы.

Мінецца час такі суровы
Для нашай мілагучнай мовы –
Спрыяльны, добры прыйдзе час.
І ў душах нашых будзе свята.
Ты скажаш дзякуй маме й тату
Не раз
            за беларускі клас.

*25.05., 27.08.2013*

## Аляксандра Герасіменя

Аляксандра – наша гордасць:
І чужыя, і свае
Б’е высокія рэкорды –
Застаяцца не дае.

Спрытнай рыбкаю цудоўна
Пачуваецца ў вадзе…
І з усмешкаю чароўнай
Па зямлі бацькоў ідзе.

Край святы свой, край адзіны
І ў заморскіх бачыць снах.
Хоць і ўбогая Радзіма,
Незаменная яна.

Шлях Радзімы гістарычны
Уяўляе зноў і зноў,
Гераічны й драматычны
Лёс праслаўленых князёў.

Чэмпіёнка ў нас такая,
Цудам варта называць;
Часта Быкава чытае,
Раіць іншым пачытаць…

Так, за ўсмешкай шчырай, гожай,
Глыбіня душы відаць.
Аляксандра, дай жа Божа
Век гаркоты вам не знаць!
*2013*

## Эмацыйная і сардэчная

Вікторыя Азаранка, азартная ў тэнісе,
Я заўсёды прагнуў тваіх перамог
На кортах планеты,
Радаваўся за поспехі,
Засмучаўся няўдачамі.
Часам не шанцавала, ты ажно ламала ракетку.
Я заўжды адчуваў тваё сэрца гарачае.
Адчуў яго асабліва
Пасля таго як наведала ты
Ў Бараўлянах дзяцей нешчаслівых
І з Каралінай Вазняцкі,
Пасля відовішчнага з ёю матча,
Ахвяравала грошы на іх лячэнне.
Я ўбачыў вочы твае, поўныя слёз,
Чуў, чк голас дрыжэў, калі ты прамаўляла.
Ты, відаць, зразумела,
Якое чубатае беларускае гора,
Хоць яно сваёй сутнасцю лысае
(Чубатым павінна быць шчасце!)…
Мне так імпануе, што ты,
Адна з наймацнейшых спартсменак Зямлі, --
Душою прыгожая, не толькі лікам;
Краса твая будзе людзей ратаваць,
Перамоганосная Віка!

## АКРАВЕРШЫ

### Самавіты

Няўжо ты, мой народзе самавіты,
Асуджаны ажно на выміранне?!
Расці, трывушчы і таленавіты,
О, радуй свет жыццём, не існаваннем,
Дом свой будуй, прасветлы, быццам ранне.

### Скарб

Маліцца за родную мову нам трэба —
О, так людзі любяць святыні свае!
Вядома, што мова — Зямлі дар і Неба.
Ахоўнікаў скарбу нам век не стае.

*11.11.2003*

### Відавочны скарб

Пятрарка, Пушкін, Багдановіч…
Ад Бога – несмяротны дар.
Эмоцый, думак рух у Слове,
Заўсёдная прысутнасць чар.
І вечная загадка-таямніца:
Як можа ў слове цэлы свет змясціцца?

*26.05. 2002*

### Неўміручасць

Крыніца, якая дае
Наталіць людзям смагу, ёсць Кніга.
І гора таму, хто знішчае яе!
Ганебная справа – чыніць кнізе ліха…
А радасць ад Кнігі – ніхто не заб’е!

*2002*

## Самы юны геній

Больш за ўсё люблю паэта –
Аўтара «Пагоні».
Гора здраднікам, каторых
Даганяюць коні.
Ах вы, коні, гром з маланкай!
Не стрымаць Пагоні…
О, нясіце волю, радасць,
Віцязі, Краіне,
І няхай пад мечам здрада
Чорная загіне!

*1991*

## Славуты

Як біўся за волю славуты паэта!
Народ зваў ён з цемры у сонечны дзень.
Казалі пра нашыя крыўды сусвету
«Адвечная песня» й «А хто там ідзе?».
«Курган», «Бандароўна» нам дух узвышаюць;
У генія стомы й спачыну не знаюць
«Паўлінка», «Тутэйшыя» — дар на вякі…
Ах, як жа дарэчы са сцэны не сходзіць
Любімы ў народзе пясняр памяткі,
Ахвярны і непераможны такі!

*2002*

## Санцадайны

Я дзіўлюся: колькі фарбаў,
Колькі думак запаветных
У паэта, колькі скарбаў,
Богам дадзеных, адметных.
Колькі ні мінае летаў,
От жа не зліняла слова;
Люба так чытаць паэта,
А таму што творца гэты —
Санцадайны, адмысловы.

*2002*

## Класік Гарэцкі

Мой геній, так рунела слава,
А ў час не лепшы, час ліхі!
Каго знішчаў рэжым крывавы?
Свядомых, зоркіх, не глухіх!
І стаў ахвярай Ты ў жыцці –
Магілы нават не знайсці.

Глыбінны, вытанчаны класік,
Ахвярны, не згубіўся ў часе,
Расстрэл і катаў перамог,
Элітны, верны Беларусі.
Цалую, родны, й ганаруся
Красой і сілай, бачыць Бог,
І ўсім, што ў век кароткі змог!

*22.02. 2013*

## Чароўны творца

Які ён зорны й сонечны мастак –
З размахам гістарычным і касмічным,
Этнограф, археолаг энергічны,
Пісьменнік незвычайны, наш Зямляк!

Душою ўсёй любіў сваю краіну,
Рагнеду, Чарадзея, свет-Скарыну…
Ахоплены высокім пачуццём,
Захоплены мастацтвам і жыццём,
Даследнік роднае зямлі свае,
О, як цяпер яго нам не стае!
Вандруе недзе па Сусвеце зорным,
І ўспамамінае яго край вазёрны –
Чароўны творца ў душах паўстае.

*9--10.05.2013*

## Самотны выгнаннік

Адам Міцкевіч, геній светлы, знаны,
Дар Божы цябе ўславіў на ўвесь свет.
Ах польскамоўны любы наш паэт!
Між іншым толькі польскім скрозь названы.
Мы ведаем: Літвой  зачараваны,
Ішоў па свеце з вобразам яе…
Цябе нам не стае — час настае,
Каб стаў краінай нашаю прызнаны.
Еўропа й свет ці знаюць, дзе ты рос?
Выгнаннік быў: цару не спадабаўся —
І лёс выгнанніка да скону нёс.
Чаму ж і пасля скону ім застаўся?

*Верасень 2003*

## Самаахвярны

Тарас Шаўчэнка — непадкупны волат,
Апостал праўды, рыцар роднай мовы.
Расійскі цар募караў яго няволяй,
А не зламаў жа й не пазбавіў слова,
Сам цар-вампір скарыць не змог яго.
Шануе люд пакутніка свайго,
Ахвяраваў што не адною мрояй,
Ўкраіну любячы душою ўсёю,
Чароўную зямлю, прастор яе.
Эх, столькі гора зведаў, столькі стратаў!
Не меў а ні сям'і, ні хоць бы хаты.
Кароткі век пражыў у часе клятым.
А ў памяці ён вечна паўстае.

*2003*

## Майстар Слова

Бог паслаў нам віртуоза ў слове —
Ад Куліны сына ў добрай славе.
Радуйся, паэзій лад сусветны:
Ад Ушачаў родна-запаветных
Да біблійна-ўзвышаных матываў
У паэта ўсё жыве шчасліва.
Любіць ён высокае тварэнне
І натхняе творцаў пакаленні
На актыўна-шчодрыя здзяйсненні.

*2008*

## Насуперак нягодам

Ветрана. І золка. Дужа слотна…
Як залежым ад слаты істотна!
Раптам рэзка можа ўпасці
Ціск і тонус, а настрой тым болей.
І пры ўсіх нягодах, пры напасцях
Несці трэба дух высокай волі,
Смелай прагі Бацькаўшчыне шчасця.
Колькі ж ёй стаяць на бездарожжы,
Існаваць без радасці і долі?

*2008*

## Дар

Казкамі багаты Чудзін,
А й паэта даў ён свету --
Свет няхай дабрэйшы будзе!
Колькі б ні блудзілі людзі,
Одум прыйдзе -- быць з паэтам!

*2003*

## Свята

Нябёсы ўсе ў аблоках лебядзіных
І ўся ў пладах зямля. Парой такой
Навее чуццяў шмат дзень нарадзінаў
Асветніцы, паэткі трапяткой.
Маё ты сонца ясна-залатое,
Атулены святлом тваім, жыву.
Цалуючы імя тваё святое,
Я ў скрушным свеце ведаю пра тое,
Што я шчаслівай долю назаву.

20.09.2003

# Ніне Мацяш—у іншасвет

## Тваե запаветы

Прыпазнілася наша вясна –
Надышла яна летам,
З ім злілася, з гарачым, высокім,
З летам нашых спатканняў, расстанняў,
Спатканняў, расстанняў,
                    спатканняў, расстанняў,
З летам сонечных ночак,
Якім наталяліся мы і якое
Межы восені гэтак адсунула лёгка!
Зрэшты, й нашая восень нагадвала лета,
Вераснёвая восень…

Навальніца зімы навалілася хутка, знянацку
І маланкаю сэрца працяла тваё,
А мяне аглушыла надоўга…

Разумею цяпер: не ў зямлю ты пайшла,
Бо абраная небам.
Я застаўся на грэшнай зямлі.
Я адзін апынаюся часта
Між табой і Ўсявышнім.
Трымаю ў руках і чытаю вачыма і сэрцам
Твае запаветы –
“Паміж усмешкай і слязой”,
“Душою з небам гаварыць”.

*Верасень 2012*

## Рэха цеплыні

Столькі было цеплыні
У нашых спатканняў!..
Аддаліліся лепшыя дні,
Аддаліліся чыстыя ранні
Жывой светлыні
І сонечныя змярканні.
Абвастрыўся сардэчны голад,
А насустрач – бы цяжкія сны –
Рук і вуснаў страшэнны холад,
Холад снежня і холад вясны.
Холад,
Холад,
Холад,
Холад скразны!..

І толькі здалечыні –
Рэха той
Незабыўнай святой
Тваёй цеплыні.

*Верасень 2012,*
*Студзень 2013*

## У святую ноч

Аніхто на зямлі не святы,
Хіба толькі на небе святыя.
Як жа цяжка пакутвала ты!
За грахі за чые, за якія?

Зоркі й месяц з-за хмараў густых
Не парушылі цемру начную.
Ды не ў цемру пайшла, адзінокая, ты –
У святую ноч, у святую.

*9-10.01. 2013*

## Душа мастака

Жыццё чалавека – як знічкі палёт,
Як свечкі святло залатое.
Пад ногі нярэдка яму – галалёд,
На сэрца – маланкі парою.

Не ведае шляху свайго чалавек
І што яму наканавана,
Спяшаецца ўсё-такі жыць і жыве
Ён, мэтай святой апантаны.

На неабсяжных прасторах быцця
Душа чалавека не згіне,
Калі загарыцца святлом адкрыцця,
І след незабыўны пакіне.

Хай свечка згарае дарэшты, да тла,
У космасе знічка знікае,
А ты заставайся крыніцай святла,
Душа мастака трапяткая.

*2012*

***

*Міколу і Людміле*
*Чачоткіным*

Хоць кажуць, што на ўсё
Гасподняя ёсць воля,
Змірыцца як,
калі
Нядоляй стала доля?

Змірыцца як з бядой,
Што стрэлам прыляцела
І апякла душу,
І апаліла цела!

Як мукі пражыцць
І перасіліць скруху?..

Пранесці цяжкі крыж
Даецца моцным духам.

*2013*

## Нечаканая туга

*Н.У. Глобус*

Спадарыня Ніна, і ў будні, і ў святы
Зачынены дзверы гасціннае хаты.

У хаце прасветлай да вечара з ранку
Ніхто не кранае на вокнах фіранкі.

Парой вечаровай чароўнага мая
У вокнах прасторных святла не бывае.

Сумуе сядзіба пад небам пад сінім
Па голасе й кроках сваёй гаспадыні.

Па цёплых далонях спадарыні Ніны
Сумуюць півоні, на градках расліны,

Маўчыць тэлевізар, пустуюць пакоі,
І тужаць суседзі па чуйным спакоі,

Па слове прыязным, усмешцы прыемнай…
Спадарыня Ніна з тугою ўзаемнай?

Адамчыкаў сад і май-травень чакае,
І з бліжняга лесу зязюля гукае.

*25.05, 10.06. 2013*

* * *

*Светлай памяцi Н.У. Глобус*

Ах, спадарыня Нiна,
Наш унучак Ягорка,
З кiм вы пасябравалi,
Плакаў доўга i горка, --
Зажурыўся хлапчынка,
Калi толькi дазнаўся,
Што вы ТАМ, скуль нiколi
Анiхто не вяртаўся.
Проста, так прымiтыўна,
Суцяшаў я малога,
Што цяпер там, далёка,
Не балiць вам нiчога…
Ну а сам я падумаў,
Калi плакаў унучак,
Цi душы чалавечнай
Насамрэч не балюча?

*17-18.08. 2013*

* * *

*Светлай памяці В.К. Драгінай*

Ехаў, каб развітацца
З Валянцінай Кірылаўнай, я,
З добрай дачнай суседкай.

Так зусім нечакана
Ток на лініі знік –
Супыніўся тралейбус.

На той свет хрысціянку
Ўжо святар блаславіў
(Святара там не стрэў я).

Засталася радзіна --
На радзіму яе
Са сталіцы адвезці.

Яна ў кветках ляжала.
Ля дамоўкі стаяў
Я адзін і ў памерлай

Бачыў толькі жывую,
Тую, што басанож
Кожным летам хадзіла;

Тую, што гадавала
І дачушку, і ўнучак,
Бульбу, ягады, кветкі

І што без інсуліну
Аддаляла  прысуд
Грознага дыябету;

Потым мужна сустрэла
Нерухомасць сваю
І працяглую немач;

Бачыў я хрысціянку,
Што любіла жыццё
І жывую гамонку!

*Травень, ліпень 2013*

* * *

*Светлай памяці Івана Богдана*

Суседзе мой! Глыбокі твой начлег,
Яго засыпаў белы лёгкі снег,

Яго знайшоў па свежых я слядах.
Застылых кветак хіляцца галоўкі…
А тваім дзецям бачыцца у снах,
Што прыязджаеш ты з камандзіроўкі…

Куток твой ціхі: кветкі ды вянкі.
Ні горада, ні вёскі, ні дарогі.
А на работу ўсё ідуць званкі:
Тваёй шукаюць людзі дапамогі.

Глыбокі сон, глыбокі твой спакой.
Але аднойчы, неяк перад святам,
Прыйшла яшчэ паштоўка, у якой
Табе гадоў жадаюць жыць багата…

Суседзе мой! Бясконцы твой начлег.
Тут лёгкім пухам лёг бялюткі снег.

*2.03.1986*

## Суседка Надзя

Мне жаль: аўдавела так рана
Мая дарагая суседка –
Сардэчную зведала рану,
І шчасця згарнулася кветка.

Забавы сабе не шукала,
Каб смутак хутчэй бы развеяць,
З душою дзяцей гадавала,
Імкнуклася вечнае сеяць.

І выраслі добрыя дзеці,
Растуць-падрастаюць унукі.
Былі найвярнейшыя ў свеце
Матуліны словы і рукі;

Свая памагала стараннасць,
Быў сад батанічны ў суседкі.
Лячылі сардэчную рану
Цудоўныя людзі і кветкі.

Сумелася доля-зладзейка,
Што шчасце змяняла на гора.
На свеце трымае Надзейку
Любоў да людзей і да флоры.

*15--16.11.2013*

* * *

Я на агонь зачаравана
Гляджу нібыта ўпершыню.
Яскравай ружаю агню
Сардэчную лячу я рану.

Пад небам зорным каля гаю
Расце агонь, цвіце агонь,
Сілкую, лашчу ўсё яго,
Хоць ласкі ён не вымагае.

*Вясна 2014*

**Слухаючы дразда…**

Дрозд, недарэмна ты шчыруеш:
Кагосьці песняй зачаруеш.
Напэўна, пташа, адчуваеш:
Прыстойным голасам спяваеш.
Яшчэ скажу, між іншым, я:
Сёй-той цябе за салаўя
У цішыні лясной прымае.
Я ж добры слых адмалку маю,
І здатнасць даўняя мая –
З драздом не блытаць салаўя…

*Вясна 2014*

## Да залатога юбілею

Як два сэрцы ў каханні забіліся,
Я ніколі забыць не гатоў.
Не згубіліся ў шлюбе – злюбіліся,
Крочым разам паўсотні гадоў.

Бачыш, добраю доляй падорана
Свята нам – юбілей залаты,
Хоць сябе, для сям'і, любві створаных,
Шанавалі не з першай вярсты.

Як шкада: маладосць не вяртаецца –
Там памылак, вядома, зашмат.
Сэнсу мала цяпер вельмі каяцца,
Разбіраць, хто і ў чым вінават.

Шлях у згодзе хай, любая, доўжыцца.
Ласкай Неба трымаемся мы.
Радасць лета далёкага множыцца,
Хоць паціху брыдзем да зімы.

Пад нагамі ў нас восені золата,
Сонца золата над галавой,
І душа адгукаецца молада:
Залатая нявеста са мной!

*13 ліпеня 2014*

## Пад зоркаю Хрыста

Хай у жыцці пануюць вечна
Любоў, і мір, і пекната;
Палюбім бліжняга сардэчна –
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Не быць сумленню ў паняверцы.
Нянавісць, прэч, і пустата!
Напоўнім верай нашы сэрцы –
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Зближае нас духоўным хлебам
Да храмаў верная вярста.
У нас адны зямля і неба –
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Не перастаньма верыць, людзі:
Зло пераможа дабрата.
Няхай у нашых душах будзе
Заўсёды зорачка Хрыста!

*2014*

***

Калі бачыў драму
Сыноў маладое краіны,
Прыходзіў у памяць
Сюжэт найвядомы біблійны.

Хрыста прадавалі,
На смерць асудзілі,
Хрыста распіналі,
Да крыжа прыбілі
Яго ногі, рукі.
Мне сэрца праймалі
Збавіцеля мукі.

У век цемрашалаў,
Рэжыму бязлітасна-злога
Мяне суцяшае
Ісуса Хрыста перамога.

*2008*

***

У зімы чароўнае аблічча
І круты характар у яе,
А мяне ўсё прагуляцца кліча,
Сумаваць залішне не дае.

-- Пачакай, -- кажу зіме, -- хвіліну,
З хаты звыклай да цябе збягу,
Толькі лёгкі кажушок накіну
І гарачых коней запрагу.

Я, зіма, з табой паехаць рады,
Не баюся холаду й прыгод!
Мы з табой павернем у Каляды,
Мо з табой прыручым Новы год!
Кожнаму твайму аддамся цуду,
Будзеш, зімка, ты мяне натхняць,
Ну а я, вясёлы й светлы, буду
Рыфмай звонкай тройку паганяць!

*2015*

## Дакор новай зіме

Ты, ведзьма старая,
Нашто сонца ўкрала?!

Якія Каляды
Нам з цемры уладай?!

Якія размовы
Пра год наш пра Новы?..

Як святы адзначым?
Мы ж сонца не бачым!

Цябе ў цьмяных хатах
Назвалі праклятай!

На сумных дарогах
Аварыяў многа.

Рублі нашы ў крамах
Ляцяць, нібы ў яму…

На фоне дэпрэсій –
Суцэльныя стрэсы.

Скрозь дзеці сумуюць:
Без сонца зімуюць!

І дома і ў школах
Настрой невясёлы.

Сваёй роднай мовы
Знявечваюць словы.

Дзе цемры улада,
Не будзе там ладу!

Ты што, звар'яцела?
Дзе сонца падзела?!

Пакутнай старонцы
Вярні, ведзьма, сонца!

*2016*

# З ВАНДРОЎКІ ЗАМОРСКАЕ

## У экзатычным краі

Аўстрыйскіх Альпаў велічны размах,
Карцін такіх няма ў маёй краіне:
Аблокі спачываюць на гарах
І снег бялее між крутых вяршыняў.

У старане дзівоснай, ды чужой,
Згадалася мне родная старонка:
Раўніна, гай, сцяжынка на лужок,
Прапахлы медуніцаю, рамонкам.

Краіна ўся ўявілася мая,
Дажджом і сонцам спешчаны прасторы,
І пушчы Белавежскай акіян,
І стужкі рэчак, рэк, і гладзь вазёраў.

З замежжа я, куды б ні кінуў лёс,
З бязмежжам добрай памяці вярнуся
Да шолахаў чароту і бяроз,
Да бальшакоў і сцежак Беларусі.

***

Міс Францыя-сяброўка, добры ранак!
Зноў я прыехаў да цябе з каханай.
Шэсць год таму адкрылі мы сталіцу,
А сёння гаспадыня наша – Ніца.

Над Сенаю ў Парыжы мы гулялі,
Там золак з салаўямі сустракалі.
Тут чуем голас мора несціханы.
Мы пяць краёў праехалі з каханай
Дзеля кутка прывабнага такога,
Пад веснім сонцам берагу марскога.
Я думаць буду з ёю не так многа
Пра хуткаплыннасць жыццейка зямнога.
Хоць думкі непазбежныя пра тое
Перад марскою хваляю жывою.

***

Я люблю рытмічны шум прыбою,
Слухаць яго з раніцы іду:
Штосьці ў ім бунтоўнае такое,
Што, бадзёрачы, ўзнімае дух.
Шум прыбою свежага марскога
Дорыць лёгка паглыбленне дум,
Неадступна так з жыцця мірскога
Мітусню змываючы і тлум.

***

Ты не магла ўявіцца ці прысніцца,
Прыветлівая чараўніца Ніца,
Багатая і сонейкам і морам,
Тваёй гасціннасці не зведаць зморы!
У небе больш, як чаек, самалётаў,
Аэрапорт прымае іх з ахвотай;
Курсіруюць яны і ўдзень і ўночы:

Пажыць тут прылятае шмат ахвочых.
А мора хвалі весела ўздымае,
Як цацачныя, ветразі гайдае,
На бераг набягаючы прыбоем,
Дзяцей бязмежна вабячы сабою.
І сем'ям існы рай, і закаханым,
Ты працвітай пад сонцам, край жаданы!

***

Без цябе не ўтаймую тугу.
З табой стану самой пяшчотай.
Я кахаю цябе не ўпотай,
Ведай, я для цябе ўсё змагу.

Трыялет

Каханая мая бабуляй стала,
Унукаў любіць, як сваіх дзяцей,
Хвалюецца за іх усё часцей.
Каханая мая бабуляй стала;

А для мяне яна яшчэ мілей,
Няхай сябе залішне занядбала.
Каханая мая бабуляй стала,
Унукаў любіць, як сваіх дзяцей.

***

Любуюцца французскія бабулі,
Як наш прыўкрасны невялічкі ўнучак
Вязе сваю малявачку-сястрычку,
Вырульвае вазочак вельмі спрытна

З усмешкай добраю, замілаванай.
Я думаю, што гэтая карціна
Ўшчэнт састарэлым колішнім мадоннам
Прынесла ўцеху гэтак нечакана
І дадала напэўна аптымізму.

## Беларуская калыханка на Сяродземным моры

У дзень бясхмарны, дзень, такі прыемны,
Сярод людзей, на моры Сяродземным,
Дачушка немаўля сваё люляе
І калыханку ціха напявае:
Доўгі дзень, цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень, сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы,
Змоўклі птушак галасы…
Душой дзіцятка словы паглынае –
З усмешкай, ледзь прыкметнай, засынае.
А я расцалаваць дачку гатовы
За цёплыя Бураўкінавы словы,
За спеў такі адметны, адмысловы.
Падобна, мору наша калыханка --
Прыемная неспадзяванка:
Яно так шчыра нам дапамагае –
Прыбоем сон дзіцяці паглыбляе.

## Рэальнасць і фантазія

Я не магу ніяк-ніяк змірыцца,
Што чужамоўнай робіцца сталіца.
Таму ўсё паглыбляецца апатыя,
Усё цяжэй змагацца з ёй, праклятаю.
Дапамагло б мне дзіва з лепшых дзіў –
Каб роднай мовай Менск загаманіў.
А з Менска прыклад узялі б тады
Ўсе іншыя напэўна гарады.
З мільёнаў вуснаў мова расцвіла б,
У небяспецы болей не была б
У нашай талерантнай старане.
Тады б я ведаў: Бог пачуў мяне!
Ён здатны на дзівосныя падзеі!
Больш ні на кога ўжо няма надзеі.

## Сонца над Сэн-Поль-дэ-Ванс, або Шлях угору

Дыптых

1

Дзень першы лета; ў час такі
Пад Віцебскам,
пад Менскам,
пад Бярэсцем
Ля жыта ў полі васількі
Чаруюць так, што позірк не адвесці.

…Па брукаванцы ўверх памалу
Ручай вандроўнікаў плыве.
Тут хто куды, я – да Шагала,
Туды, дзе ён спачыў навек.

Я завітаў сюды здалёк,
Чытаю звесткі на пліце на вузкай…
Шагалаў помню васілёк
На палатне, ён – вобраз беларускі.

2

Шагал цудоўна закаханы,
Фантазіяй век апантаны.
Мастак арлу падобны быў,
Найболей волю ён любіў,
Лунаў, высока гнездаваўся.
Ударам лёсу не здаваўся.
Далёка бачыў. Жыў ён так,
Як толькі хоча жыць мастак,
Сабой-асобай заставаўся.
Зусім не ўсім даступны стаўся.

***

На Чорным моры бачыў шмат я бруду,
На Сяродземным цешыць чысціня,
Як і прыстойнасць, ветласць люду,
З чым сутыкаюся штодня.
Тут незнаёмы, ці не кожны стрэчны,
Хто б ён ні быў – стары а ці малы,
Падорыць проста і сардэчна
Bonjour, а з ім – душы святлынь.

## Талент нямых

У тамбуры шматлюднай электрычкі
Так жыва размаўлялі дзве нямыя,
Падобныя, бы родныя сястрычкі,
Прыгожыя абедзьве, маладыя.

Ім жэсты, міміка служылі мовай,
Багатай на эмоцыі даволі.
Уражаны нязвычнаю размовай,
Пра талент іх падумаў я міжволі.

Так, гэта талент з моцнаю асновай –
Не разгубіцца перад цяжкай доляй.

## Тры санеты Глебу

***

Каб за мяжой нямым не пачувацца,
Сярод чужых нямоглым каб не быць,
Мусова працу памяці любіць,
Замежных моваў варта не цурацца.

Я веру, змалку будзеш ты старацца
Наказ мой, юны дружа, не забыць –
Не ленавацца памяць варушыць,
Каб ёлупнем пасля не аказацца.

Прыходзячы лагічна да высновы,
Я гэтак завяршыць хачу размову:
Сярод жаданняў і спакусаў мора
Нам трэба ўсім выразна ўсведамляць:
Не знаць замежных моваў – сорам
І ганьба – роднаю не размаўляць!

***

Унучак мой, які ж ты малайчына:
Перад калекам дзверы адчыніў
I s‘il vous plait*  сказаў, так учыніў
Высакародны чалавечы ўчынак!

Расці шчаслівы, родны мой хлапчынка!
Хачу, каб сонца людзям ты дарыў,
Каб штосьці новае ў жыцці адкрыў
Сям’і на радасць і сваёй Айчыне.

Любімы мой шасцігадовы рыцар,
Твая усмешка дабрынёй іскрыцца,
У вачанятах – весняе святло…
Мне верыцца, і мроіцца, і сніцца:
Не будзе ў тваім лёсе навальніцаў
Ды абміне цябе людское зло!

***

Ты па-сапраўднаму прыгожы
Сваёй душой высакароднаю.
Ты любіш песні, мову родную,
З трох год чытаеш – ёсць дар божы.

Належыць – поспехі памножыць,
Жыцця дарогу выбраць годную,
Няхай не ўтульную, не модную,
А тую, што расці паможа.

Перад тваёй, мой родны, школай
Яшчэ сказаць павінен я:
Хачу, о радасць ты мая,
Каб вырас духам ты някволы.
Усё ў цябе, здаецца, ёсць,
Каб расквітнела прыгажосць.

*Менск--Ніца--Вільнэвэ-Лоўбэ--Менск*
*19 траўня – 6 чэрвеня 2016*

## Травеньскія матывы

***

Лясоў высокіх мора
Заняў яскравы золак,
Святло імкліва мкне.
На фоне птушак хору –
Зязюльчынае сола.
Так гэта люба мне!

***

Шчыруе увішны
Высока-прасветлы
Пагодлівы май.
Раскошная вішня
Пад ласкавым ветрам
Люляе ўраджай.

## Дзьмухаўцы

Цветам сонечным буялі
Краскі адмысловыя,
Нібы ў золаце стаялі.
Адцвілі, адкрасавалі –
Ўжо сівагаловыя.

Заўваж: такі ж нядоўгі век
Твайго цвіцення, чалавек.

*21--22.05.2017*

## Мой адпачынак

Час без экрана, без газетаў,
Без радыё, без інтэнэту,
Падобна, нават і без стрэсаў,
Ты зараз мой – з паветрам лесу,
З высокай нотай салаўя
І з працаю зямной гаючай.
З табой – бы расцвітаю я.
Ты, мая радасць, -- немінучы!
Жаль толькі: мігам прамільгнеш,
Ды я табой натхнёны.
Даволі рэдкі ты ў мяне,
То будзь жа благаславёны!

*28.05.2017*

\

## Наказ

*М. Ж.*

Не варта поспехам хваліцца
І надта ад няўдач журыцца.
Павер, мой свет, не толькі мне:
Даволі хутка ўсё міне…

Ты не маркоць душу трывогай,
За дзень пражыты дзякуй Богу,
Зашмат назаўтра не прасі,
Спакойна кроч сваёй дарогай
І радасць бліжняму нясі.

*4.06.2017*

***

*Светлай памяці С. Я.*

Бачыў нямала вачэй я дзявочых,
А ўспамінаю часцей тыя вочы,
Рэдка ў жыцці быў спатканы якімі
(Ды й не натхняўся ніколечкі імі).
Карыя ўражвалі вочы сабою,
Нейкай затоенай вечнай журбою;
Шчырыя вочы бацьку любілі,
Бацькі не стала -- моцна тужылі,
За маці хворую перажывалі,
Крыўды ўсялякія цяжка трывалі.

Што страшна ўдарыла ў карыя вочы --
Рынуць прымусіла ў чорныя ночы?..
Скрушна з трагедыі долі сірочай.

*21--24.05.2017*

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч Васіль**

# Замова ад рабства

У аўтарскай рэдакцыі

Падпісана да друку **.07.2017.
Фармат 60×84/16.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум.-друк. арк. 7,03. Ул.-выд. арк. 5,04.
Наклад ** ас. Замова 2**.

ТАА «Каўчэг»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 01.07.2014.
Пр. Незалежнасці, 68-19, 220072 г. Мінск.
Тэл./факс: (017) 284 04 33
e-mail: kovcheg_info@tut.by